


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

21 сакавіка 2003 года

№ 12 (413)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну



### Эксперымент

**АСТРАВЕЦ.** Райвыканкам перадаў 17 гектараў зямлі лясгасу.

Тут будзе эксперыментальная пасадка дрэваў, якія не растуць у натуральных умовах Беларусі. Цяпер распрацоўваюць праект гадавальніка. Раней на гэтай зямлі людзі садзілі гароды.

Ірына РАБУШКА.

### Новы дырэктар Нацпарку

**МЯДЗЕЛ.** Нацыянальны парк "Нарачанскі" атрымаў новага генеральнага дырэктара.

Ім стаў Васіль Каржоў, які дагэтуль узначальваў ДАІ у Чавускім раёне. Былы дырэктар Нацпарку Сяргей Гомза памёр 31 снежня мінулага года.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Чэмпіён Расіі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Вучань СШ №6 Арцём Філанюк стаў чэмпіёнам Расіі сярод кадэтаў (узрост 16-17 гадоў) па каратэ.

Маладзечанец выступаў у катэгорыі звыш 68 кг. Ён перамог у раздзеле ката (спартсмены паказваюць набор прыёмаў) і заняў 3-е месца ў раздзеле кумітэ (спарынг).

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Сацыяльны прытулак

**ВАЛОЖЫН** У Вішневе на базе дзіцячага сада адкрыўся сацыяльны прытулак.

Тут знаходзяцца дзеці з раёна, якія па розных прычынах не могуць жыць дома. Прытулак разлічаны на 30 выхаванцаў. Пакуль жывуць 6, усе школьнікі будуць вучыцца ў мясцовай школе.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Падарункі спазніліся

**СМАРГОНЬ.** У сераду дзеці, якіх выхоўваюць адзінокія таты, атрымалі... калядныя падарункі.

Кожны атрымаў канцылярскія тавары, зубную пасту, шчотку, мыла, ручнік. Іх перадалі з Англіі. А спазніліся падарункі з-за таго, што доўга праходзілі афармленне на мытні.

Ірына РАБУШКА.

### Рэгіянальны агляд

**ВІЛЕЙКА.** 15 сакавіка ў раённым Палацы культуры адбыўся рэгіянальны агляд сельскіх устаноў культуры.

Выступілі дзесяткі калектываў з Вілейскага, Маладзечанскага, Мядзельскага і Валожынскага раёнаў. Цяпер мінскае журы выбірае лепшых, якія збяруцца на фінальным канцэрце 3-4 мая ў Старых Дарогах.

Ігар КІЦІКАЎ.

# Новае жыццё ў Каранях

**СМАРГОНЬ. Пачала працаваць новая раённая паліклініка.**

Яна знаходзіцца ў аддаленым ад цэнтра горада мікрараёне Карані. Будаўнічыя работы завяршыліся ў канцы мінулага года, яшчэ месяц ішла ўборка памяшканняў. Урачыстаць адкрыць паліклініку мяркуюць у апошні дзень месяца, але прыём ужо вядзецца. Працуюць тэрапеўт і педыятр, лабараторыя і фізіятэрапеўтычны кабінет. Работы ўрачам хапае, бо на Смаргонь надыходзіць грып. А палове 11-й раніцы ў аўторак у кабінет участковага тэрапеўта **Галіны Эйсмонт** заходзіць 21-ы з пачатку рабочага дня наведвальнік.


Участковы тэрапеўт Яніна Эйсмонт прымае пацыентаў у новай раённай паліклініцы. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Цяперашні будынак гарадской паліклінікі быў разлічаны пад дзіцячы сад. Узводзіць яго пачалі ў пачатку 1990-х. Але праз некалькі гадоў будоўлю закінулі, ды і патрэба ў садзе ў Каранях адпала. Прычына – планы па расшырэнні мікрараёна не збыліся. Пачаўся зваротны працэс, бо агрэгатны завод, вакол якога і размясціліся новабудоўлі, з-за нізкай зарплаты работнікі сталі пакідаць. Колькасць жыхароў у мікрараёне змяншаецца, дзяцей таксама, і адзіны дзіцячы сад у мікрараёне спраўляецца ўзяць на выхаванне ўсіх дзетак мікрараёна.

Цяпер раённая паліклініка месціцца хоць і ў цэнтры горада, але ў не вельмі прыстасаваным для такой установы будынку: вузкія кабінеты і калідоры ствараюць нязручнасці пацыентам і персаналу. У канцы 1990-х закінуты будынак сада вырашылі перарабіць пад паліклініку. Тым самым знікла праблема расшырэння раённай паліклінікі і занятасці будынка ў Каранях.

Як сказаў нехта з класікаў, вырашэннем любой праблемы з'яўляецца новая праблема. Гэта пацвердзілася і тут. Ад смаргонцаў у выканкам і паліклініку паступалі званкі і лісты з просьбай не пераносіць лячэбную ўстанову, бо да яе нязручна дабірацца.

Намеснік старшыні райвыканкома **Святлана Шмыга** гаворыць, што кіраўніцтва Смаргонскага аўтапарка запэўніла яе, што ў Карані хоць з інтэрвалам у 20-30 хвілін, але гарадскія аўтобусы хадзіць будуць спраўна. З насельніцтвам працуюць інфармацыйныя групы, якія тлумачаць неабходнасць пераезду паліклінікі. Да таго ж, стары будынак паліклінікі не апусцее. Там застануцца ўчастковыя тэрапеўты, педыятры, дзіцячая і жаночая кансультацыі. А ў новы будынак пераедуць вузкія спецыялісты: хірургі, афтальмолагі, эндакрынолагі і іншыя. Таму жыхарам Цэнтральнага мікрараёна едзіць у Карані спатрэбіцца толькі тады, калі ўчастковы тэрапеўт іх туды накіруе.

Намесніца галоўнага ўрача Смаргонскага РТМА **Валянціна Манцэвіч** сказала, што ў новаю паліклініку да яе ўрачыстага адкрыцця разам з цяперашнім абсталяваннем завязуць сучасную УЗІ-апаратуру і рэнтгенаўскі апарат.

А жыхары Каранёў спадзяюцца, што гэты раён Смаргоні атрымае новае жыццё.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Калі спыніцца цягнік?

Чарговы летні сезон ў Маладзечанскім гарадскім парку адкрыецца, як звычайна, 1 мая. Работнікі парку падрыхтавалі гараджанам некалькі прыемных сюрпрызаў.

3-я старонка

### Крыўда партызана Вянкова

Кіраўніка Ільянскага аддзялення Дзяржбанка ў 1944-46 гадах Віктара Вянкова знялі з працы з-за нявысветленага ваеннага мінулага.



5-я старонка

### Міхаіл Бакунін у Маладзечне

Рускі філосаф і рэвалюцыянер XIX стагоддзя Міхаіл Бакунін у сваім юнацтве 2 месяцы пражыў у Маладзечне, дзе служыў у артылерыйскай часці.



8-я старонка

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Калі спыніцца цягнік?

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі парк ужо рыхтуецца да адкрыцця летняга сезона.**

Усю зіму там вяліся работы па добраўпарадкаванні тэрыторыі. Асноўнае з гэтых мерапрыемстваў – "схаваць" пад зямлю рэчку-ліўнёўку, што з'яўлялася падчас вясенняй паводкі і дажджоў, пад зямлю. Цячэнне ліўнёўкі скіравалі ў жалезабетонныя трубы, якія закапалі на 1,5-2 метры. Машыніст аўтакрана "Спецбудмеханізацыі" **Уладзімір Руцкі** гаворыць, што вельмі цяжка было капаць зямлю. Бо яна прамерзла на 1 метр углыбіню. Замест каўша на экскаватар прыходзілася прыладжваць гідрамолат і разбіваць зямлю. Жалезабетонныя трубы, па словах Ул.Руцкага, пабурацца яшчэ не скора. Матэрыял, з якога яны зробленыя, вельмі трывалы. Усяго праклалі прыкладна 500 метраў труб – ад гімназіі да Палаца культуры. Дарэчы, каля палаца таксама цячэ гэтая ліўнёўка. Але яе "схавалі" пад зямлю больш за 15 гадоў таму назад. Закапаюць ліўнёўку і ў другой частцы парку – гэта яшчэ 200-300 метраў. Толькі грошай пакуль няма.

Так як і на новыя атракцыёны. Да 2005 года меркавалася купіць аўтацягнік, які б ездзіў па перыметру парку. Цягнік бы спыняўся на некалькіх прыпынках, было б дэпо. Выконваючы абавязкі дырэктара гарпарку **Сцяпан Субота** гаворыць, што аўтацягнік не купяць ніколі. На гэта неабходна 70 мільёнаў рублёў. З'явіцца новы забаўляльна сілавы атракцыён, дзе кожны зможа памерацца сілай. На пляцоўцы пад дахам, дзе былі дзіцячыя машынкі, сёлета за сімвалічную плату затанчыць моладзь.

А вялікую танцпляцоўку, якая не адзін год у заняпадзе, выкупіла за 11 мільёнаў рублёў прадпрымальніца. Тут размесціцца дзіцячае кафэ прыкладна на 50 чалавек.

Праект распрацаваны на 5 год, каштуе 50 мільёнаў рублёў. Сёлета павінны быць відавочныя вынікі працы. Сцяпан Субота мяркуе, што танцпляцоўка "не прыжылася" з-за нашага клімату. Цяпер танцпляцоўку вярнуць да жыцця складана. Бізнес робяць багатыя людзі. А што возьмеш з маці з дзіцем.

Між тым, Сцяпан Субота думае распачаць работу парку праз два з паловай тыдні. Урачыстае адкрыццё сезона будзе, як заўсёды, 1 мая. Цэны на атракцыёны застануцца на ўзроўні леташніх.

**Ірына РАБУШКА.**



Машыніст аўтакрана "Спецмеханізацыі" Уладзімір Руцкі працуе на добраўпарадкаванні Маладзечанскага гарадскога парку. Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ КОНКУРСЫ

## Засталіся 4 прэтэндэнты

**ВІЛЕЙКА. Конкурс на лепшую гандлёвую марку і слоган Вілейскага гарадскога малочнага завода прайшоў паўфінальную стадыю.**

Як сказалі на заводзе, камісія адабрала 4 варыянты. Іх адправілі ў Мінск на ўзгадненне новай назвы вілейскай прадукцыі. З тых варыянтаў, якім дадуць "дабро", выберуць лепшыя. Для пераможцаў конкурсу прадугледжваецца першая прэмія ў памеры 100 тысяч рублёў, другая – 50 тысяч, а таксама заахвочвальныя прызы – "малочныя карзіны" з наборам высакаякасных прадуктаў вытворчасці Вілейскага гармалзавода. Імёны пераможцаў мы аб'явім у нашай газеце.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Даступная даведка

**Цяпер даведачна-інфармацыйныя службы Мінскай гарадской тэлефоннай сеткі будуць даступныя ўсім жыхарам краіны.**

Доступ абанентам тэлефоннай сеткі агульнага карыстання Беларусі да гэтых службаў будзе ажыццяўляцца па нумары **8-017-99XXX11**. **XXX** – гэта нумар даведачна-інфармацыйнай службы.

**009** – даведачная аб нумарах мінскіх тэлефонаў;
**088** – аўтаадказчык дакладнага часу;
**094** – гараскоп на тыдзень;
**095** – прагноз надвор'я;
**096** – казкі па тэлефоне;
**099** – даведачная служба аб нумарах тэлефонаў медыцынскіх устаноў, экстранных і аварыйных службаў Мінска;

Сума аплаты будзе ўключаць:

1.Кошт паслугі; **009** – 70 рублёў за даведку (з 22-00 да 6-00 – 140 рублёў за даведку); **088** – 5 рублёў за даведку; **094** – 22 рублі за хвіліну; **095** – 33 рублі за даведку; **096** – 22 рублі за хвіліну; **099** – бясплатна.

2. Пачасовую аплату мясцовага злучэння: 4,79 рубля за хвіліну.

Усе даведачныя службы працуюць кругласутачна.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

## Пра «зайцаў»...

**МАЛАДЗЕЧНА. Кандуктар не паспела абілеціць пасажыра. Шмат хто трапляе ў такую сітуацыю ў гарадскім транспарце. Сутыкнулася з ёй і Н.**

Яна везла ў аўтобусе-"двойцы" дзіця да доктара. Кандуктар пачала абілечваць пасажыраў. Не паспела дайсці да Н., як у аўтобус зайшлі кантралёры. Яны не сталі разбірацца. Абвінавацілі маці з дзіцем, абразілі і прапанавалі заплаціць штраф. Н. адмовілася, бо не лічыла сябе вінаватай. Праўда, давялося з дзіцем у аўтобусе ледзь не 2 разы з канца ў канец праехацца.

Патлумачыў сітуацыю намеснік дырэктара па перавозках пасажырскага аўтапарка №4 **Віктар Руткоўскі**. Варта даведацца аб падрабязнасцях не толькі са слоў пасажыра, але і са слоў кандуктара і кантралёра. Можа і кандуктар не паспець абілеціць. Гэта залежыць ад таго, колькі чалавек зайшло на прыпынку – 5 ці 25. Ім трэба прадаць білеты да наступнага прыпынку. Калі пасажыраў "ловяць" без білета, то яны заўсёды адказваюць, што не паспеў падысці кандуктар. У 85%-х гэта сапраўды так. Кантралёры, перш чым пачаць праверку аўтобуса, павінны спытацца ў кандуктара, ці ўсе пасажыры абілечаны.

Каб не апынуцца ў ролі "зайца", Віктар Руткоўскі раіць купіць праязны білет.

За пасажырамі сочаць 72 кандуктары ў кожным з 28-мі аўтобусаў па 12 маршрутах, што ёсць ў горадзе.

**Ад аўтара**. Канешне, кожны пасажыр абавязкова павінны аплачваць праезд. Але мяркую, што па чалавеку адразу бачна, можа ён быць "зайцам" ці не. Да таго ж, вазіць у аўтобусе два кругі маці з дзіцем, якім трэба да доктара, бессардэчна. Пакрыўдзіць чалавка так лёгка, а зразумець яго... А наконт праязнога білета, дык ён патрэбны толькі тым, хто карыстаецца транспартам кожны дзень.

**Ірына РАБУШКА.**

### Курсы валют НБ РБ

| | 13.03 руб. | 20.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1983,00 | 1988,00 |
| Еўра | 2185,76 | 2115,53 |
| Злоты | 515,00 | 487,88 |
| Літ | 632,94 | 612,21 |
| Расійскі рубель | 63,07 | 63,32 |

«Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1940/1965 | 1970/1990 |

Маладзечна

### Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 12.03 | 19.03 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10980 | 11890 |
| Сасіскі, 1 кг | 3530 | 3750 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1400 | 1500 |
| Цукар, 1 кг | 1100 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1250 |
| Алей, 1 л | 1700 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 430 | 450 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 860 | 900 |
| Капуста, 1 кг | 800 | 720 |
| Морква, 1 кг | 900 | 950 |
| Лімоны, 1 кг | 2300 | 2450 |
| Апельсіны, 1 кг | 1650 | 1800 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 600 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 3800 | 3600 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1000 |

■ РЫНАК ПРАЦЫ

### Вакансіі

| Назва прадпрыемства Прафесія, пасада | Неабходна (чалавек) |
|---|---|
| **«Аграсувязьэлектроніка» (тэл. 32-6-44)** | **2** |
| Радыёмеханік | 1 |
| Галоўны бухгалтар | 1 |
| **АТ «Аграхімія» (тэл. 2-63-91)** | **8** |
| Трактарыст | 8 |
| **ВЦ Мінскага аблспажыўсаюза (тэл. 5-38-24)** | **2** |
| Галоўны інжынер | 1 |
| Інжынер-электронік | 1 |
| **МПМК-197 СУП ААТ «Забудовабуд» (7-11-14)** | **16** |
| Бляхар | 1 |
| Муляр | 15 |
| **ААТ «МПМК-212» (5-48-81)** | **11** |
| Муляр | 4 |
| Маляр | 3 |
| Машыніст бульдозера | 1 |
| Цясляр | 3 |
| **МП «Пік-Мол» (тэл. 5-34-17)** | **5** |
| Швачка (пашыў вырабаў са скуры) | 5 |
| **ПМК-32 (тэл. 3-19-43)** | **17** |
| Вадзіцель аўтакрана | 2 |
| Машыніст бульдозера | 4 |
| Машыніст экскаватара | 5 |
| Трактарыст | 5 |
| Прараб | 1 |
| **РУП «Маладзечанскае ПВТК» (тэл. 3-34-93)** | **1** |
| Машыніст крана (з пасведчаннем стропальшчыка) | 1 |
| **ААТ «Будаўнік-210» (5-36-17)** | **5** |
| Муляр | 5 |
| **УП «Хажова» (28-4-46)** | **1** |
| Галоўны тэхнолаг (нарыхтоўка камбікармоў) | 1 |
| **ТАА «Чысцьжылбуд» (289-55-95, г.Мінск)** | **25** |
| Муляр | 20 |
| Цясляр | 5 |
| **Школа ДТСААФ (3-48-00)** | **2** |
| Майстар вытворчага навучання (ваджэнне) | 1 |
| Выкладчык (правілы дарожнага руху, устройства аўтамабіля) | 1 |
| **РУП «Завод парашковай металургіі» (32-4-83)** | **1** |
| Слесар-інструментальшчык | 1 |

Звесткі пададзеныя Маладзечанскім міжрэгіянальным цэнтрам занятасці насельніцтва.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ НАШ РЭГІЁН

# Васюкі, у якіх не было Бэндара

**СМАРГОНЬ. З шашы, што кіруе са Смаргоні ў Ашмяны, збочвае ўправа асфальтаваная дарога. На ўказальніку — "Васюкі 2 км". Пра Нью-Васюкі тут не чулі, а шахматны турнір таксама арганізаваць нельга, бо няма шахматыстаў у вёсцы.**

Хаця па тутэйшых смаргонскіх мерках вёска немалая – 50 сялянскіх гаспадарак, 97 жыхароў, 50 з іх – пенсіянеры, 12 дзяцей, якія хóдзяць у школу у суседнія Солы. Сама вясковая вуліца працягнулася, сама меней, на кіламетр.

Наш жа "аўтапрабег па бездарожжы і разгільдзяйстве" ўздоўж Васюкоў пачаўся адразу, як збочылі з шашы. Веснавое сонейка растапіла снег на палях, і буйныя воды рушылі ў прыдарожную канаву, стопіліся ў выбоінах вясковай вуліцы, знайшлі лазы ў вясковыя двары. З-за гэтага і магазін аказаўся як бы на востраве. Вада абступіла будыніну з усіх бакоў. Адзіны спосаб прыйсці сюды – абуць гумовікі, якія ў гэтым сельмагу якраз на сённяшні дзень самы хадавы тавар. Без іх не толькі ў магазін не патрапіш, але і па ўласным двары хадзіць няпроста, і да фермы не дабрысці. Дзякуючы ферме, уласна кажучы, і трымаецца жыццё ў гэтай вёсачцы, бо ёсць праца ў мясцовым калгасе.

77-гадовы васюковец **Фелікс Савіцкі** змагаецца з паводкай сваімі сіламі. Мабілізаваўшы на дапамогу 21-гадовую ўнучку **Юлю**, рыдлёўкай і скрабком прачышчаюць канаву ад снегу, каб даць вадзе прабіцца са двара. Хата Фелікса Валяр'янавіча таксама з усіх бакоў акружаная рыжай каламуццю, і стромкія струмені падступаюць да склепа. Вось і непакоіцца стары, каб не ўтапілася бульба, каб было чым вясной пасадзіць. Інакш нельга, бо гаспадарка ў пенсіянера вялікая – карова, двое свіней, два кані, куры. А яшчэ 2 каты і 4 сабакі.



77-гадовы Фелікс Савіцкі з Васюкоў яшчэ спраўляецца са сваёй немалой гаспадаркай. Дапамагае яму ўнучка Юля – адна з 10 дзяцей сям'і Савіцкіх са Смаргоні, пра якіх «РГ» пісала ў мінулым нумары. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

— Як жа вы спраўляецеся з такой гаспадаркай? – здзіўляюся я. — І карове, і коням накасіць трэба.

— Вось касіць я яшчэ магу. З маленства прывучаны. А астатняе ўжо цяжка рабіць. Жонка памерла, другі год ад лістапада пайшоў. А мяне з гадамі усё больш раненне непакоіць. (Дзядуля, расшпіліўшы сарочку, паказвае доўгі, праз усе грудзі шрам.) Чаргой паласнуў мяне немецкі снайпер, —працягвае далей Фелікс Валяр'янавіч. — А было гэта 4 сакавіка 1945 года. Лячыўся ў шпіталі да верасня, потым дадому вярнуўся. 58 гадоў прайшло, а рана не адпускае. Баліць.

А астатняя работа – на ўнучцы Юлі. Яна ў Смаргоні на заводзе аптычная станкабудавання працавала. Але там цяпер ні работы, ні грошай. Перабралася да дзядулі. Гаспадарку вядзе, есці гатуе.

— Кажу калі: "Ты б на дыскатэку ў Солы схадзіла", – распавядае Фелікс Валяр'янавіч. – Дык не, адмаўляецца, кажа, скаціны шкода, дагледзець трэба.

Фелікс Савіцкі – стараста вёскі, адзіны на сённяшні дзень удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. І карэнны васюковец. Нарадзіўся ў вёсцы. А потым, "за немцамі", старая бацькоўская хата згарэла. 14-гадовым падлеткам давялося яму "цягаць гарэлкі" з папялішча. Склаў бацька другую хату ў Васюках.

Калі ў 1949 годзе ўзяў шлюб з Янінай, купілі на хутары старую хату. Тут і дзеці нарадзіліся: дачка Данута і сын Віктар. (Пра яго сям'ю мы пісалі ў мінулым нумары. Згадвалася там і Юля Савіцкая.) Толькі 12 гадоў і пражылі тут. А потым ссялялі з хутароў, і яму далі лес і загадалі будавацца ў вёсцы.

Вось гэтую хаціну ён пабудаваў сваімі рукамі. Выгадаваў дзяцей, дапамагае ўнукам.

Чаму вёска яго завецца Васюкі, Фелікс Савіцкі не ведае. А вось яго сябар, ураджэнец Васюкоў, а цяпер грамадзянін Польшчы Зянон Лобач, які прыязджае сюды штолета, сабраў цэлую гісторыю вёскі – запісаў яе легенды, паводзіны людзей, звычаі.

Самую старэйшую жыхарку Васюкоў, 94-гадовую **Веру Матукевіч**, нам пабачыць не ўдалося, бо хата яе была зачынена на клямку.

А вось апошняя радзіны Васюкі святкавалі паўтара года таму назад. **Веранічка**, дачка **Аляксандра і Таццяны Апанасовічаў**, нарадзілася ў 2001 годзе.

Стукаемся ў дзверы дыхтоўнай хаціны. У двары ля плота стаіць шмат вясковай "тэхнікі" – ярка-блакітны вазок з паламі, самаробная бульбакапалка.

— Ваша? – пытаю ў гаспадара.

— Так мусі, — адказвае ён мне.

— Гэта што, прозвішча? – не зразумеўшы, перапытваю я.

— Прозвішча наша Сташкевіч, — папраўляе ён мяне.

**Казімір Міхайлавіч і Ядвіга Юльянаўна Сташкевічы** – гаспадары моцныя. І не старыя яшчэ. Гаспадар адсвяткаваў 70-годдзе, гаспадыні – 63 усяго. Нават у гэты час яны не сядзелі без работы – Казімір Міхайлавіч кошык плёў, а Ядвіга Юльянаўна за швейную машынку прысела.




Шыльда на шашы са Смаргоні ў Ашмяны. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

— Нідзе не вучылася, а вось усё сабе пашыць магу: і лепшае, і горшае.

Гаспадарка ў Сташкевічаў таксама не бракуе – ёсць і конь, і карова, і свінні, і куры. І нават пчаліныя домікі стаяць у гародчыку.

Цяпер пчалярствам займаюцца ўдваіх, але ў Ядвігі Юльянаўны стаж большы. З 40-га года яна пры пчолах, бацька меў някепскую пасеку. Так з дзяцінства і прызвычаілася.

— Казалі, раней вёска Селішчам называлася, — распавёў нам Казімір Міхайлавіч. — Але пажары адзін за адным пачалі нішчыць сялібы. Тады перанеслі вёску ў іншае месца і назву далі іншую, мо' па імені першага гаспадара.

Казімір Міхайлавіч прыгадаў, што Васюкам гадоў сто, сама меней. А можа, і ўсе трыста будзе.

Прайшлі па вёсцы і пераканаліся, што гультаёў у ёй няма. На загуменні ля кожнага дома – свежыя дровы, раха разносіць стук тапароў. Да наступнай зімы рыхтуюцца, з запасам.

— Здароў, Валя! — здалёк вітаецца з нашым добраахвотным гідам па Васюках і старшынёй Каранёўскага сельвыканкома **Валянцінай Падляшчук Іван Матукевіч**.

Іван Карлавіч 36 гадоў адпрацаваў трактарыстам у калгасе, цяпер пенсіянер.

— А зараз дома работы шмат. Раней гаспадарку жонка вяла. А 5 снежня пахавалі я сваю Ромцю. Цяжкавата адному прыходзіцца. Але...

**Марыя ВЕРАСНЕВА.**

---

■ МЕРКАВАННЕ

## Горад дактароў і настаўнікаў

**У Маладзечне больш за 81% выбаршчыкаў удзельнічаў у галасаванні, выбрана 25 дэпутатаў гарадскога Савета.**

Каго мы выбралі прадстаўляць свае інтарэсы? З 25 дэпутатаў – 8 дырэктараў прадпрыемстваў і ўстаноў. Па адукацыі: 8 дактароў, 7 настаўнікаў, 3 журналісты, 2 юрысты, 1 эканаміст, 4 інжынеры. Толькі 5 чалавек – не кіраўнікі. 2 дэпутаты – пенсіянеры.

Няма ніводнага прадстаўніка з рабочых, будаўнікоў, прадпрымальнікаў. Стваралася ўражанне, што ў выбучэнні кандыдатаў у дэпутаты не зацікаўлены прафсаюзы, ветэраны, прадпрымальнікі.

Дзіўна і тое, што большасць дэпутатаў атрымлівае зарплату з бюджэту. Калі судзіць па складу гарадскога Савета, то Маладзечна з прамысловага цэнтра стала горадам дактароў і настаўнікаў.

**Віктар УЛАСЕНКА.**

---

■ ВЯРТАННЕ ДА ТЭМЫ

## Лепш позна, чым ніколі

**У адным з лістападаўскіх нумароў "РГ" быў апублікаваны мой матэрыял "Небяспечныя канікулы".**

У ім ішла гаворка аб тым, як праходзілі асеннія канікулы ў Чысцінскай школе. У прыватнасці, там было сказана, што з-за негалоснага правядзення "дзён закрытых дзвярэй" у школьным спартыўным комплексе (нагадаю: гэта сем спартыўных залаў, дзве з якіх з'яўляюцца гульнявымі, сучасны плавальны басейн, выдатны стадыён, саўна) – комплексе, які з'яўляецца альтэрнатывай суму і гультайству, чысцінскія дзеці былі без справы. А гэта ў сваю чаргу прымушала іх шукаць іншыя забавы, тым больш, што часу на гэта хапала, хоць адбаўляй. Вось і грымелі па ўсім пасёлку ўзрывы ад петардаў. Але дзецям гэтага здавалася мала. І тады яны практыкаваліся ў кіданні петардаў на балконы жылых дамоў. Згадваліся прыклады і іншых дзіцячых "забаў", якія прыводзілі да пажараў. Выказвалася меркаванне аб небяспечнасці вогненных гульняў для здароўя дзяцей, што, на жаль, хутка і пацвердзілася, бо ў цэнтральных газетах і на рэспубліканскім радыё з'явілася паведамленні аб тым, што ў Мінску 28 дзяцей былі дастаўлены ў бальніцу з сур'ёзнымі апёкамі твару і вачэй у выніку няўмелага карыстання петардамі.

Улічыўшы ўсё гэта, адміністрацыя школьнага спартыўнага комплексу ў пярэдадзень зімовых канікулаў вывесіла па ўсёй Чысці аб'явы, з якіх можна было даведацца аб тым, што з 2 студзеня і да заканчэння дзіцячай вольніцы ўсе залы і басейн будуць адчынены для вучняў. Акрамя таго, загадам дырэктара (які, дарэчы, у лістападзе знаходзіўся ў водпуску) было прадпісана ўсім настаўнікам фізкультуры і інструктарам басейна знаходзіцца на рабочых месцах на працягу ўсяго дня штодзённа. Самога кіраўніка школы можна было сустрэць у любы час то ў залах, то ў басейне, дзе Сцяпан Міхайлавіч асабіста кантраляваў выкананне свайго загаду на працягу ўсіх канікулаў. Але не бывае бочкі мёду без лыжкі дзёгцю! Дзяцей у спартыўным комплексе было ўсё ж такі малавата... І тут хутчэй за ўсё сыграла інерцыя мыслення. Справа ў тым, што ўсе папярэднія сем гадоў работы спорткомплексу ні разу не здаралася такога раздолля для дзяцей! Да таго ж, з 25 снежня вада ў басейне была спушчана для санітарнай апрацоўкі, але ніхто не сказаў, калі яна будзе зноў залітая. А дзеці па папярэдняму вопыту ведалі, што гэта адбудзецца не хутка, а таму многія з іх... раз'ехаліся да дзядуляў-бабуляў на ўвесь перыяд канікулаў. Вось бы ў класах аб'явіць загадзя ды яшчэ некалькі разоў аб намерах адміністрацыі, тады, мабыць, усё адбылося б, як і планавалася. І ўсё ж зрухі ў патрэбным напрамку ёсць. І яны з'яўляюцца залогам будучых сапраўдных святаў для дзяцей падчас іх адпачынку.

**Уладзімір ЗВЕРНІК.**

---

■ ТЭАТР

## Святочны тыдзень

**Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" абвяшчае святочны тэатральны тыдзень з 23 па 27 сакавіка, які прысвечаны Міжнароднаму дню тэатра.**

Гледачы пазнаёмяцца з цікавымі спектаклямі як для маленькіх, так і для дарослых, як па добра вядомых казках, так і па арыгінальных сучасных творах. А 27 сакавіка адбудзецца творчая кульмінацыя тыдня. У першай палове дня тэатр адправіцца ў падарожжа да сваіх шчырых і любімых гледачоў, якія заўсёды з вялікай радасцю прымаюць "Батлейку". У Вілейцы адбудзецца тры спектаклі ў дзіцячых садах №8, №10, №11. А 16-й гадзіне у зале "Батлейкі" пачнецца святочны вечар. Пройдзе паказ для дарослых прэм'ернага спектакля "Яна і я" паводле аднайменнай паэмы Я.Купалы ў апрацоўцы Пятра Васючэнкі.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ,**
актрыса тэатра.

 



# Крыўда партызана Вянкова

**ВІЛЕЙКА. Уладзімір Кажамяка з Ілы перадаў у рэдакцыю ўспаміны былога партызана Віктара Вянкова.**

У 1942-44 гадах Вянкоў уваходзіў у склад партызанскай брыгады імя Фрунзе, якая дыслакавалася на тэрыторыі Лагойскага і Ільянскага раёнаў. Былы камісар гэтай брыгады Іван Міроненка сабіраў партызанскія ўспаміны. 20 гадоў таму выкладчык Ільянскага сельгастэхнікума Уладзімір Кажамяка збіраў звесткі аб падпольшчыках і партызанах у Ілы. Так матэрыял, які вы зараз прачытаеце, апынуўся ў яго.

Свае ўспаміны "Мая Адысея – як сон" Віктар Вянкоў напісаў у 1981 годзе. Пра далейшы лёс былога партызана мы, на жаль, нічога не ведаем.

Прапануем выбраныя месцы з партызанскіх успамінаў:

"10 чэрвеня 1941 года мяне накіравалі на перападрыхтоўку ў Чырвоную Армію.

Дома я пакінуў дваіх дзяцей, жонку – выкладчыцу рускай мовы, сваю маці і цешчу. Трапіў у 497 гаўбічны артылерыйскі полк. Жыццё было як свята. За 10 дзён вывучылі па 10 знакаў азбукі Морзе і насіць на спінах радыёпрыёмныя станцыі "УПК" ці "РРУ", а перадачы на іх вялі нашыя настаўнікі-сяржанты.



Кіраўнік аддзялення Дзяржбанка ў Ілы ў 1944-46 гадах Віктар Вянкоў.

Архіў "РГ".

## Дарога на вайну

Перад адпраўкай на фронт нас завялі ў лазню і апранулі ў новую форму савецкай арміі. Па дарозе на вайну наш старшына батарэі, які ўдзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі восенню 1939 года, расказаў, што тады баёў не было. Гэта было нешта накшталт прагулкі і знаёмства з насельніцтвам. Тое ж, па меркаванні камандзіра батарэі, будзе і цяпер. Мы слухалі, было весела, пелі песні і не бераглі прадукты. З'елі нават "НЗ" – "неприкосновенный запас", які дазвалялася выкарыстоўваць толькі па загаду камандавання.

25 чэрвеня 1941 года полк высадзіўся ў Крычаве. Дзесьці праз 20-40 кіламетраў сустрэліся з групай ваенных. Малады лейтэнант спыніў машыну і спытаў, куды едзем. Адказалі – на фронт. Ён сказаў, што нямецкія салдаты добра ўзброеныя і нічога не баяцца. Артылерысты здзівіліся, што лейтэнант гаворыць нешта не тое, але затрымаць не падумалі.

## Сустрэча з ворагам

Тым часам у небе з'явіліся нямецкія самалёты, з кожным днём іх станавілася ўсё больш. Прыходзілася пастаянна з'язджаць з дарогі і хавацца ў лесе. Рухаліся марудна і рушылі далей ў бок Магілёва. Ніхто дакладна не ведаў, куды трэба ехаць, дзе лінія фронту. Ехалі проста наперад, насустрач ворагу.

Пасля першага боя рускія дапатопныя ротныя і палявыя рацыі знялі з узбраення, і мяне з радыстаў перавялі на пасаду памочніка старшыні і сувязным паміж камандзірам батарэі і камісарам.

Баі ў трохкутніку Магілёў – Орша – Чавусы вычарпалі запас снарадаў для гаўбіц. Сувязь з базамі абарвалася. Батарэю перадалі нейкаму пяхотнаму палку ў якасці супрацьтанкавай абароны. Шляху наперад не было, рушылі назад, у бок Крычава. Але перасколчыць праз мост на левы бераг Сожа не ўдалося, бо немцы абстрэльвалі і пераправу, і падыходы да яе. У нас было па 5 снарадаў на кожную гармату і зусім не было ежы. Спыніліся непадалёк ад вёскі, у невысокім бярэзніку каля Сожа, і пачалі гатаваць абед. Каля нас прайшоў лейтэнант у рускай форме і спытаўся, дзе штаб дывізіёна. Мы адказалі, што не ведаем, але заўважылі, што на гэтым лейтэнанце была новая форма, не тое, што ў нас. Нашу ўважлівасць прытупіла тое, што ў лесе хадзіла шмат акружэнцаў, якія згубілі свае часці. Праз некалькі хвілін з таго месца, куды пайшоў лейтэнант, пачалася стральба і бамбёжка.

Далей я нічога не памятаю, бо, як потым расказалі, мяне кантузіла і засыпала зямлёй: побач разарвалася бомба. Прыйшоў у сябе праз суткі, калі ляжаў у кузаве машыны, якая неслася па лясной дарозе, шукала ратунку і пераправу праз Сож. Машына спынілася, бо закончылася гаручае. Хадзілі па навакольных вёсках, пыталіся, ці ёсць у вёсцы немцы. Ворагі былі шмат дзе. Карміць нас у вёсках не спяшаліся, адказвалі: многа вас тут па вёсках шляецца.

## Палон

Вечарам Вянкоў з групай салдат пайшлі да жыта, а з яго выйшла цэлае аддзяленне рускіх салдат з сяржантам на чале. Ён спытаўся, хто мы такія. Мы разгубіліся і абрадаваліся аднachасова. Адказалі, што мы акружэнцы і адбіліся ад сваіх. Сяржант прапанаваў ісці за ім, бо ў вёсцы знаходзіцца маёр, які збірае разам акружэнцаў. Калі прыйшлі ў вёску, нам прапанавалі застацца на вуліцы і пакінуць зброю. Калі ўвайшлі ў хату, там сядзеў нямецкі афіцэр. Так мы трапілі ў палон.

На другі дзень нас прыгналі ў Крычаў і загналі ў памяшканне школы. Пастроілі. Спыталіся, хто тут яўрэй ці камісар. Хто выйшаў са строю, тых адводзілі ў бок і расстрэльвалі. Пасля этапавалі ў Магілёў, Оршу і прывезлі ў Мінск.

Я пазнаёміўся па дарозе ў Магілёў са сваім земляком Аляксеем Ляпёшкіным. Пасля прагулкі па казармах ён сказаў, што нейкі ваенны збірае палонных на работы пры ўмове, каб яны былі апранутыя ў цывільнае адзенне. За ноч мы перапрануліся ў курткі і зімнія шапкі. Зарабілі за гэта па пайку хлеба. Раніцай каля ўборнай сабралася чалавек сорак цывільных. Ваенны нас аглядзеў і сказаў, што мы ідзём на работу цеслярамі. У казармы мы больш не вярталіся. Нам адвялі зямлянкі. Кармілі раз у суткі. Мы клалі падлогу ў мураваных будынках, падганялі рамы на вокнах і навешвалі дзверы. Якасць работы была дрэнная, бо сярод нас сапраўдных цесляроў было мала.

## Здзекі фашыстаў

Тыдні праз два нас перавялі ў лагер Драздьі пад Мінскам. Загналі ў вялікі хлеў. Раз на суткі давалі па шклянцы нейкай горкай вадкасці, дабаўлялі ўдары палкай ці падстаўлялі падножку, каб чалавек упаў і праліў вадкасць. Калі прыходзілі ў хлеў, то са з'яўленнем немцаў усе павінныя былі стаць на калені. Так вытраўлялася наша чалавечая годнасць. Прайшоў час, нас выгналі з хлява і пастроілі. Пыталіся, хто можа працаваць на чыгунцы, быць цесляром, водаправодчыкам. Пад аховай хадзілі на работу і з работы.

Ахова ў лагеры была слабая, агароджа была няякасная – вырашылі бегчы. З Ляпёшкіным вырашылі, што адзін з нас сходзіць у навакольныя вёскі, знойдзе яду і даведаецца, якое там становішча.

Ноччу я пайшоў на разведку. Схадзіў у некалькі вёсак, даведаўся, што кругом немцы, а ў вёсках прызначылі старастаў. Другі раз ў адной з вёсак я сустрэў мужчыну, які падказаў, што трэба ісці ў лес і шукаць партызан. Па дарозе ў лагер у лесе я знайшоў лістоўку, у якой гаварылася, што нейкая савецкая часть разбіла нямецкую групоўку. Пасля работы ў нашу зямлянку набілася многа палонных. Лістоўка пайшла па руках. Многія плакалі і гаварылі: "Там нашыя браты ваююць і гінуць, а мы працуем на немцаў і чагосьці чакаем". Раніцай на пастраенне не выйшла паловы, яны пайшлі ў лес. Які іх лёс, не ведаю, але пасля гэтага ў лагеры ўзмацнілі ахову. Нас усіх перамецілі (белай фарбай на спіне вывелі вялікую літару Z – цывільны палонны), выдалі кожнаму фанерны жэтон, на адным баку быў номер палоннага, на другім – фашысцкая пячатка. У дзень святкавання Кастрычніцкай рэвалюцыі нас прымусілі чысціць уборныя. Немцы над намі смяяліся, а некаторыя стараліся спіхнуць у яму, каб замараць.

## Пабег

Уліпені ці жніўні 1942 года ў сталовай са мной снедаў Садонін П.Г. Ён сказаў, што Ляпёшкін хворы на дызентэрыю, а сам Садонін ідзе з гарадка, а за мной прышле сувязнога. У пачатку верасня 1942 года ў лагеры быў каранцін, на работу мы не хадзілі. Мне перадалі, што ў Сляпянцы мяне чакае сувязны Сашка. Сустрэліся, пайшлі на базар. Я гавару, што пойдзем купім хлеба. Ён забраў у мяне грошы, падышоў да ларка, заказаў па шклянцы самагонкі з агурком. Выпілі. Даў мне ў рукі рубанак і сказаў ісці цяслярыць у вёску, там дадуць паесці.

У атрад мы трапілі на наступны дзень. Хто такі быў Сашка, я так і не даведаўся. Гаварылі, што ён заблытаўся на спекуляцыі конямі, але дакладна пра яго лёс не даведаўся.

У атрадзе "За Радзіму" брыгады імя Фрунзе я прыняў прысягу ў верасні. Быў залічаны ў аддзяленне майго земляка Васіля Берсіна. Прымаў удзел ва ўсіх баявых і гаспадарчых аперацыях узвода. У 1943 годзе падпольны райком прыняў мяне ў кандыдаты ВКП (б). Хадзіў я на "рэйкавую вайну". Рэйкі я не ўзрываў, а ў групе камандзіра ўзвода Мацвеева знаходзіўся ў засадзе на дарозе Вілейка-Маладзечна. Сыходзілі з засады пасля апошніх узрываў на дарозе пад кулямётны шквал нямецкай аховы, якая паспявала ачухвацца.

## Гісторыя пра млын

У 1943 годзе асабісты склад брыгады папаўняўся мясцовымі жыхарамі. У нашым атрадзе "За Радзіму" было больш за 300 чалавек. З пацяпленнем камандаванне было вымушанае адправіць частку ўзводаў на самастойнае забеспячэнне, і іх знялі з катла. У сакавіку ці красавіку 1943 года камандзір атрада даў мне заданне арганізаваць работу Чарвякоўскага вадзянога млына (цяпер вёска Сакалоўка). У дапамогу мне далі двух партызан Маштакова І. і мясцовага Нядвецкага Івана. Разам з чарвякоўцамі Ігнатам Мордасам, Кузьмой Клачко адрамантавалі вадзяное кола, устанавілі мукамольныя камяні, перагледзелі ўсе механізмы прывода. Праз 2 дні млын запрацаваў. Мясцовыя жыхары пачалі ісці на млын, бо абрыдла малоць збожжа ўручную. Калі хапала вады ў сажалцы, працавалі круглыя суткі. Перапынкі рабілі толькі тады, калі зараджаліся акумулятары для падпольнай друкарні ці пілавалі лес для шпіталя і зямлянак.

Пасля Маштакоў зрабіў электрычнае асвятленне, а Нядвецкі знайшоў на працу мельнікаў. Млын поўнасцю забяспечваў партызанскі атрад і брыгаду хлебам і крупамі. Пачалі рабіць запасы. Млын некалькі разоў бамбілі, але партызаны яго адстаялі. У пачатку 1944 года млын спыніўся, бо сцёрліся жорны. Мельнік Кузьма Клачко з рызыкай для жыцця паехаў у Лагойск за неабходнымі кампанентамі, зрабіў новыя, і праз тыдзень млын запрацаваў. Але ў 1944 годзе падчас блакады карнікі яго спалілі.

## Вызваленне

Пасля вызвалення Чарвякоў вяскоўцы былі знясіленыя, харчаваліся асакой, парэчкамі, не грэбавалі жабамі і смаўжамі. Зрэдку знаходзілі ў шалашах партызан падмочаную муку. Пасля злучэння з партызанамі даведаўся, што камандзір паранены, шмат партызан загінула.

Астатнія партызаны пайшлі на ваенны парад у Мінск. А мяне накіравалі ў райком партыі. Сакратар райкома Павел Шалкоўскі сказаў, што мяне на фронт не адпускаюць. Я пачаў працаваць у Ільянскім райвыканкоме. Старшынёй быў Васіль Чачыеў, але той праз некалькі дзён папрасіўся на фронт, а на яго месца паставілі Давыда Басячэнку.

У жніўні 1944 года райком накіраваў мяне ў Вілейскі абласны Дзяржбанк, дзе мяне прызначылі кіраўніком Ільянскага аддзялення, дзе я працаваў да 28 жніўня 1946 года.

У 1946 годзе пры праверцы маіх падпольных партыйных дакументаў у Маладзечанскім абкоме партыі ўбачылі, што я не ўступіў у партыю. На паседжанні абкома мне прапанавалі ўступіць у партыю. Падаць заяву я не змог, бо мяне знялі з работы. І перавялі па сямейных абставінах у Горкі. Там заяву ў мяне не прынялі, рэкамендавалі годзік папрацаваць. У 1947 годзе пярвічная горкаўская арганізацыя прыняла мяне кандыдатам у члены ВКБ (б).

Пры разглядзе заўвагі ў Канавінскім райкоме прынялі рашэнне ўстрымацца аб прыёме ў партыю, бо быў у палоне ў немцаў, двойчы збягаў і двойчы вяртаўся. У пярвічную арганізацыю паведамілі, што яны хацелі прыняць у партыю здрадніка Радзімы, і строга наказалі пра гэта членам партыі – маім паручыцелям. Адначасова паведамілі пра мяне ў органы дзяржбяспекі. Ярлык, які дала мне аўтарытэтная ўстанова, захаваўся.

## Канец адысеі

З таго часу я нікому не гаварыў пра свой удзел ў Вялікай Айчыннай вайне, бо ніякіх дакументаў у мяне не было. Няма і сведкаў маёй адысеі – хто памёр, а хто згубіўся. Была надзея на Пятра Мумулашвілі, які камандаваў узводам 4-й батарэі 497 гаўбічнага палка. Але яго брат, якога я знайшоў у Горкім, сказаў, што Пётр загінуў пад Сталінградам."

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

 

 



# Ад пачатку да скону Беларускай

25 сакавіка 1918 года Радай Беларускай Народнай Рэспублікі Беларусь была абвешчана незалежнай і свабоднай дзяржавай.

Гэта не ўваходзіла ў інтарэсы яе суседзяў, ды і Германскія акупацыйныя ўлады сваё панаванне тут ні з кім дзяліць не збіраліся. Радзе БНР у лепшым выпадку адводзілася доля "Пасрэдніка паміж нямецкімі ўладамі і беларускім народам, для таго, каб палегчыць жыццёвыя цяжкасці, якія выкліканы вайной", пра што заявіў камандуючы 10-й нямецкай арміі генерал Эрых фон Фалькенхайн прадстаўнікам Рады.

25 красавіка 1918 года ад імені Рады БНР імператару Вільгельму накіравалі тэлеграму з падзякай за вызваленне Беларусі нямецкімі войскамі, што выклікала абурэнне многіх беларусаў не толькі ўнутры краіны, але тых, якія знаходзіліся далёка за яе межамі. Гэта быў памылковы крок, які пазней доўга тлумачылі і апраўдвалі. Актыўны ўдзел у арганізацыі і рабоце Рады прынялі прадстаўнікі і ўраджэнцы Вілейшчыны: Антон Аўсянік, Леанард Заяц, Аляксандр Уласаў, а таксама Клаўдзій Альшук з Ілы, Станіслаў Заяц з Даўгінава і іншыя.

Трэба сказаць, што першапачаткова Рада спрабавала змякчыць акупацыйны рэжым, прыдаць які-небудзь парадак нямецкім рэквізіцыям. На адрас Народнага сакратарыяту БНР ішлі скаргі ад насельніцтва на неправамерныя дзеянні акупацыйных улад. У чэрвені такія лісты паступілі ад жыхароў Вязынскай, Даўгінаўскай, Іжанскай і іншых валасцей. У адказ яны атрымлівалі лісты з абяцаннем прыняць належныя захады дзеля высвятлення спраў аб злоўжываннях нямецкіх уладаў, а таксама аб становішчах у валасцях.

Былі скаргі і просьбы ад асобных грамадзян. Так жыхар мястэчка Ілья Борух Левін 17.06.1918 г. заяўляў аб тым, што нямецкія жаўнеры забралі ў яго 1800 яек, закупленых для мясцовых жыхароў на іўдзейскае свята Пяцідзесятніцы. Жыхарка вёскі Шчукі Сухая Яўгенія прасіла выдаць ёй неабходную даведку, каб атрымаць магчымасць выехаць у Расію. На скаргу грамадзян Мільчанскай валасці ліст з просьбай даць распараджэнне аб разглядзе яе быў перасланы ў штаб Х нямецкай арміі. Аднак рэальнай улады ў Радзе БНР не было.

Палажэнне Германіі ў імперыялістычнай вайне і буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя дазволілі 13 лістапада 1918 года Савецкай Расіі дэнансаваць несправядлівы Брэст-Літоўскі дагавор. Чырвоная Армія перайшла ў наступленне па ўсім фронце, і 16 снежня яе перадавыя часці вызвалілі Вілейку. Адразу ў горадзе аднавілі сваю дзейнасць органы Савецкай улады.

Сюды на непрацяглы час прыбылі і літоўскія таварышы. Не дачакаўшыся вызвалення Вільні, яны ўжо 16 снежня 1918 года абвясцілі ў Вілейцы аб утварэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Літвы на чале з Міцкявічусам-Капсукасам, які стаў пасля відным партыйным і дзяржаўным дзеячам Літвы і Беларусі.

18 снежня Ленін і Сталін па прамым провадзе ў Дзвінск (Даўгаўпілс) перадалі: "Записка принята. Мы все очень рады Вашим сообщениям. Примите привет. Освобождайте скорее Вильню".



Мінск, 1918 год. Народны сакратарыят Беларускай Народнай рэспублікі. Злева направа сядзяць – А. Бурбіс, Я. Серада, Я. Варонка, В. Захарка. Стаяць – А. Смоліч, П. Крачэўскі, К. Езавітаў, А. Аўсянік, Л. Заяц.

Фота з кнігі «Ілюстраваная энцыклапедыя гісторыі Беларусі».

Праз чатыры дні пасля гэтага ў газеце "Жизнь национальностей" быў змешчаны артыкул тагачаснага наркома па справах нацыянальнасці І.В.Сталіна "Дела идут". У ім ёсць такія радкі: "Образовавшееся в Вилейке рабочее правительство Литвы, с его пламенным манифестом, несомненно создаст надежный центр объединения революционных сил Литвы. Красные стрелки Литвы понесут своей родине освобождение. Признание литовского рабочего правительства Российским Советским правительством укрепит в них веру в окончательную победу...".

5 студзеня 1919 года Вільня была вызвалена Чырвонай Арміяй, і ўрад Літоўскай рэспублікі пераехаў туды. Праз некалькі дзён Міцкявічус-Капсукас ужо адтуль шле прывітальную тэлеграму Леніну, а копіі Свярдлову і Сталіну з падзякай за іх братнюю дапамогу. Гэты гістарычны факт мала дзе ўзгадваецца.

29 снежня 1918 года ў Вілейцы адбыўся павятовы з'езд Саветаў, на якім прысутнічала 120 дэлегатаў. Паведамлялася, што ў Будславе, Куранцы, Даўгінаве і іншых валасцях арганізаваны валасныя Саветы. На іх ускладзена задача на правядзенне ў жыццё дэкрэта Савецкай улады па аграрным пытанні.

Вілейская гарадская камуністычная ячэйка на той час налічвала 17 членаў, 32 кандыдаты і 70 спачуваючых ім. Неўзабаве тут быў арганізаваны камуністычны клуб, дзе чыталіся лекцыі, даклады, праводзіліся рэвалюцыйныя святы. Абавязкі сакратара павятовага камітэта партыі бальшавікоў выконваў А.Крывенька, а старшынёй рэўкома стаў закалёны бальшавік, ураджэнец вёскі Дубавое Хаценчыцкай воласці У.Ф.Кажура.

Для барацьбы з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй і службовымі злачынствамі ў канцы 1918 года была створана Вілейская павятовая Надзвычайная камісія (НК), старшынёй якой стаў Н.Ф.Буслаўскі, членамі Савіч, Чабрыцкі, Ф.Пагуда, С.Субач, Цукерман і іншыя. У склад камісіі ўваходзіла спецыяльная каравульная рота, якая ахоўвала і патрулявала важныя аб'екты горада і павета, змагалася з бандытызмам. Узначальваў яе А.П.Нарушэвіч. Арганізатарам і камандзірам войск НК быў Я.Я.Дзяруга. Пры гэтым аддзеле меўся аператыўны аддзел, які займаўся следчай работай, рэквізіцыяй маёмасці, арыштамі падазроных. Тут служылі С.Нічыпаровіч, П.Шалкоўскі, М.Альфер і іншыя. Камендантам горада быў назначаны Васіль Дурэйка, начальнікам міліцыі – Лук'ян Рачыц, ваенным камісарам – Антон Лубнеўскі. Рэвалюцыйны трыбунал узначальвалі былыя матросы з мяцежнага браняносца "Пацёмкін" Іваноў і Голікаў, якія адбывалі зняволенне ў Вілейскай турме. Начальнікам яе ў той час быў Васіль Данілевіч. Баец аперытыўнага аддзела С.П.Нічыпаровіч разам з камандзірам узвода войска НК І.К.Жаўняровічам з Рыбчына былі часова камандзіраваныя ў Вільню.

1 студзеня 1919 года ў Смаленску была абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь. Як самастойная дзяржаўная адзінка яна выдзялялася з саставу РСФСР і аб'яўлялася свабоднай і незалежнай. Але ўжо 27 лютага цэнтральныя выканаўчыя камітэты Літвы і Беларусі аб'ядналіся ў адзін орган і выбралі сумесны ўрад, які ўзначаліў В.Міцкявічус-Капсукас.

Быў утвораны таксама Мінскі губернскі рэвалюцыйны камітэт, у склад якога ўвайшоў і У.Кажура. Яго ўлада распаўсюджвалася на ўсе паветы Мінскай і былой Гродзенскай губерні, а таксама на Вілейскі павет Віленскай губерні. Улады другіх губерняў падпарадкаваліся непасрэдна ўраду ЛітБел.

На 1 сакавіка 1919 года ў Вілейскім павеце налічваліся 121 член партыі, 122 кандыдаты і 624 спачываючыя. Праз месяц на партыйнай канферэнцыі павета прысутнічалі прадстаўнікі ад 14 партячэек. У гэты нялёгкі час Савецкая ўлада ўдзяляла ўвагу і народнай асвеце. На аснове дэкрэта Літоўска-Беларускай ССР аб рэарганізацыі школьнай справы паўсюдна ствараліся адзіныя для ўсіх дзяцей агульнаадукацыйныя школы 1-й і 2-й ступені. 15-16 сакавіка ў Маладзечне адбыўся першы з'езд настаўнікаў Вілейскага, Ашмянскага і Дзісненскага паветаў, у якім прыняло ўдзел 230 чалавек. Дэлегатам на Усерасійскі з'езд настаўнікаў ад Вілейкі быў абраны Сапрык Восіп Восіпавіч, настаўнік Хаценчыцкай школы.

Аднак здзяйсненню гэтых і іншых добрых спраў Савецкай улады перашкаджала ўскладненне міжнароднай абстаноўкі. Ужо ў канцы лютага войскі Польшчы, атрымаўшы падтрымку і дапамогу краін Антанты і ЗША, пачалі наступленне на Заходнім фронце. Польскае войка 17 красавіка здзейсніла прарыў ля Ліды, павярнула на поўнач і праз два дні захапіла Вільню. ЛітБел фактычна перастала існаваць. Яе функцыі стаў выконваць Мінскі губрэўком. Супраць інтэрвентаў былі мабілізаваны ўсе сілы. З Вілейкі на дапамогу невялікаму заслону Чырвонай Арміі былі накіраваны ўзвод вартавой роты і дзве роты, сфарміраваныя з мясцовых жыхароў. Савецкія роты, якія абаранялі вёску Каловічы, з падаспеўшым з Вілейкі рэзервам неаднаразова адбівалі атакі белапалякаў. "Вілейскія сяляне, мабілізаваныя мясцовым рэўкомам, - пісала "Звязда" 24 мая 1919г., - сумелі не толькі стрымаць ворага, але і перайсці ў контрнаступленне".

Вось як успамінаў аб падзеях тых часоў жыхар вёскі Більцавічы, удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў М.Гатоўскі. "Дваццаць тры гады было мне, калі Беларусь таптала белапалякі ў 1919 годзе. Якраз служыў у Вілейцы ў эскадроне Першага кавалерыйскага дывізіёна. У вёсцы Бараўцы стаяў узвод нашай пяхоты, у Порсе – дзве батарэі, а ў Любані знаходзіліся штаб і рота, якой камандаваў жыхар вёскі Журыхі Аляксандр Нарушэвіч. Памятаю, летам неяк паступіла ўказанне: "Быць у поўнай баявой гатоўнасці!". А на наступны дзень прыскакаў запылены веставы з Бараўцаў з нечаканай весткай: "Белапалякі зайшлі з тылу і забралі ўзвод пяхоты!". Ускочылі на коней. Нас чалавек 30 было. Выскачылі ў Вілейцы з-за могільніка і адразу ж убачылі ўдалечыні шматлікую варожую пяхоту: белапалякі набліжаліся да горада. Не было сэнсу прымаць бой. Рашылі хутчэй паведаміць у Порсу, каб адкрылі па ворагу агонь з гармат. Паслалі казака. Але і тут напаткала няўдача: Порсу ў абыход занялі ўланы. Пасланы казак ледзь не трапіў у варожыя рукі. Толькі звычайная цывільная вопратка дапамагла яму павярнуць разгарачанага каня на Каловічы ды прыпусціць на ўсю выцяжку ў Любань, каб паведаміць у штаб. Самі ж пачалі адступаць на Куранец, дзе хутка і злучыліся з ротай Нарушэвіча. І толькі каля Крывога Сяла, выбраўшы зручную пазіцыю, наша пяхота дала бой ворагу. Тут ужо давялося папрацаваць "максіму", які ўстанавілі на ўзгорку.

Затым зноў адступалі з невялікімі баямі на Рэчкі, на Крывічы і аж да Полацка. Белапалякі дайшлі да Заходняй Дзвіны, а далей іх не пусцілі. Непадалёку, у мястэчку Сіроціна, сфарміраваўся 17-ы кавалерыйскі полк, у які трапіў і я. А ў чэрвені была аб'яўлена пілсудскай Польшчы вайна. Вось тут ужо нашы пайшлі ў наступленне. Гналі з цяжкімі баямі белапалякаў аж да Варшавы.

Асабліва запомніўся бой, калі бралі Слонім. На млыне быў устаноўлены варожы кулямёт, і мы вымушаны былі галопам ісці па грэблі пад кулі: іншай дарогі не было. Жыхар вёскі Кузьмічы Канстанцін Балкоўскі быў паранены ў абедзве нагі, конь пад ім упаў ад кулямётнай чаргі. Але ўзялі Слонім.

Найгорш было, калі пачалі з-пад самай Варшавы адступаць... Першую конную тэрмінова адазвалі да Масквы на Врангеля. Палякі прарвалі фронт...".

М.Пяркоўскага пазней арыштавалі палякі, катавалі, але нічога каштоўнага для сябе ад яго не даведаліся.

Узвод войск НК, якім камандаваў А.Ц.Пагуда, быў перададзены ў 146-ы стралковы полк. У баі каля в.Сліпкі камандзір быў паранены. Байца НК П.Шалкоўскага акупанты захапілі ў палон пры абароне маста. Пакаранне адбываў у Вілейскай турме.

Упорныя баі адбываліся паўсюдна. Аднак сілы былі няроўныя. 96-тысячнай добра ўзброенай польскай арміі супрацьстаяла 36 тысяч воінаў 15-й і 16-й армій Заходняга фронту. На Вілейшчыне часцям 17-й і 52-й стралковых дывізій (СД) супрацьстаялі легіянеры, якія аб'ядналіся ў групу пад камандаваннем камандзіра 5-га пяхотнага палка маёра С.Дуб-Барнацкага. Барацьба за Вілейку і Куранец ішла з пераменным поспехам з 1 па 3 чэрвеня, а затым у ліпені. Мясцовасць некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. Аднак 1 ліпеня праціўніку ўдалося захапіць Вілейку, а 3 – Маладзечна.

18 ліпеня перадавыя часці чырвонаармейцаў з дапамогай бранепоезда контратакавалі непрыяцеля і з баямі дайшлі амаль да Вілейкі, заняўшы Крывічы, Даўгінава, Куранец. На дапамогу палякам прыйшоў 4-ы пяхотны полк, і часці Чырвонай Арміі вымушаны былі адступіць.

 

■ ЛЁСЫ

# Міхаіл Бакунін у Маладзечне

**Імя Міхаіла Бакуніна вядома, бадай, кожнаму пісьменнаму чалавеку.**

У свой час у аўдыторыях вышэйшых навучальных устаноў нам даводзілі, што Бакунін М.А. – вораг марксізму, які нанёс вялікую шкоду рэвалюцыйнаму руху. Апошнім жа часам то там, то там можна прачытаць пра яго такую характарыстыку: філосаф і сацыялутапіст, заснавальнік народніцтва і анархіст, акрамя ўсяго – палымяны рэвалюцыянер і бунтар.

Як бы там ні было, а постаць цікавая. Цікавая яшчэ і тым, што геаграфія яго дзейнасці вялікая і нечаканая: розныя мясціны Расіі, краіны Заходняй Еўропы, шэраг турмаў, у якіх ён пабываў у якасці вязня, ды яшчэ Паўночна-Заходні край, які ён аб'ехаў як ссыльны. У якасці ссыльнага Міхаіл Бакунін знаходзіўся нейкі час у Маладзечне, па тым часе невялікім мястэчку. Знаходжанне ў нашых мясцінах паўплывала на свядомасць 20-гадовага юнака даволі важка, і на гэтым варта засяродзіць увагу.

Але ўсё ж спачатку некалькі біяграфічных фактаў героя гэтага допісу.

## Сям'я

Нарадзіўся Міхаіл Бакунін у 1814 годзе ў вёсцы Прашухіна Цвярской губерні ў заможнай сям'і губернскага прадвадзіцеля дваранства. Сямейнае паданне сцвярджае, што род Бакуніных паходзіць ад князя Стэфана Баторы, які стаў польскім каралём у 1576 годзе, ажаніўшыся з Ганнай Ягелонкай. Бацька Бакуніна, Аляксандр Міхайлавіч, закончыў Падуанскі універсітэт у Італіі і абараніў доктарскую дысертацыю па філасофіі. Служыў у рускіх пасольствах у Фларэнцыі і Гурыне. Маці, Варвара Аляксандраўна Мураўёва, была траюраднай сястрой Мураўёвых-Апосталаў.



**Рускі філосаф, рэвалюцыянер XIX стагоддзя Міхаіл Бакунін ў сваёй маладосці 2 месяцы правёў у Маладзечне ў якасці афіцэра артылерыйскай часці.**

Архіў "РГ".

У выхаванні дзесяці дзяцей бацька адыгрываў галоўную ролю: ён сам займаўся з дзецьмі фізікай, геаграфіяй, гісторыяй, Законам Божым, маляваннем і музыкай. У сям'і панавала атмасфера сямейнай чысціні, рэлігіі, душэўнай гармоніі. Мішэль ад прыроды быў надзелены добрым фізічным здароўем, захапляўся музыкай і мастацтвам. У той жа час вылучаўся незалежнасцю характару і няўрымслівасцю, што часта прыводзіла да свавольных учынкаў.

## Ваенная кар'ера

Бацька выбраў для яго ваенную кар'еру. У 1929 годзе ён быў залічаны ў Пецярбургскае артылерыйскае вучылішча. Варта зазначыць, што вядомыя падзеі на Сенацкай плошчы ў 1825 годзе пэўным чынам паўплывалі на свядомасць адзінаццацігадовага Мішэля і, сутыкнуўшыся з дэспатычнымі парадкамі ў вучылішчы, якія панавалі падчас праўлення рускай дзяржавай Мікалая I, ён піша: "У час царствавання імператара Мікалая людзі задыхаліся. Гора таму, хто асмельваўся толькі пачаць наракаць супраць штодзённых гнуснасцей царскіх сатрапаў, — яго неадкладна знішчалі. Гора таму, хто асмельваўся думаць інакш, чым гэта прадпісана, — ён тут жа знікаў"...

У такіх абставінах будучы афіцэр не надта шчыраваў у ваеннай навуцы: прадметы, якія вывучаліся, ён адкрыта ігнараваў, заглядваў у падручнікі толькі перад самымі экзаменамі. Да таго ж, трэба меркаваць, свавольствы яго не пакідалі і, нягледзячы на перавод яго ў афіцэрскія класы, заслужанае пакаранне чакала – перавод у дзеючую армію. Свавольны афіцэр быў спісаны ў палявую артылерыю і накіраваны ў 3-ю артылерыйскую брыгаду з цэнтрам у Вілейцы.

## Ссылка ў Маладзечна

Ад Мінска да месца службы – Маладзечна – ён ехаў цэлы тыдзень. 27 чэрвеня 1834 года ён паступіў у распараджэнне камандзіра 7-й лёгкай батарэі Данілы Зотава. У Маладзечне ён прабыў каля 2-х месяцаў і ўвесь час пісаў родным поўныя настальгічнай тугі радкі: "Сасланы ў такую страшную глуш, як Маладзечна, дзе "панурыя сосны", а "прырода змрачнейшая". У службе Бакунін не шчыраваў і ўвесь час дамагаўся пераводу ў Цвярскую губерню. Але пакуль яго часць накіруюць у іншае месца, Міхаілу Бакуніну даводзілася жыць тым, што было наўкол. Час ад часу ён наведваўся да мясцовых памешчыкаў. У адным пісьме з Маладзечна ў прашухінскае сямейства ён іранічна піша бацькам пра наведванне польскай сям'і Бовар, дзе "маці – грэнадзёр, дзве прыгожыя дачкі і сын-дурань".

Але ў той жа час малады прапаршчык з захапленнем займаўся гісторыяй "Паўночна-Заходняга краю", пісаў канспекты. "Гісторыя і статыстыка Літвы найбольш мяне цікавілі", — піша ён на Бацькаўшчыну. Пад Беларуссю ў гэты час Бакунін разумеў землі Віцебскай і Магілёўскай губерняў, астатняя частка сучаснай беларускай тэрыторыі, у тым ліку і месца службы, вызначалася ім як "Літва".

## Беларусь павінна быць незалежнай

Назіранні 30-х гадоў моцна паўплывалі на яго светапогляд. "Аснова рускай і польскай гісторыі адна і тая ж – рабства сялян", — да такой высновы прыйшоў Бакунін. У адным з артыкулаў французскай газеты "Канстытуцыянель" 1846 года Міхаіл Бакунін паказваў беспрасветнае становішча, якое склалася ў Беларусі і Літве падчас панавання імперскай Расіі. Спасылаючыся на асабістыя ўражанні ў час службы, ён рэзка асудзіў русіфікатарскую палітыку мікалаеўскага рэжыму. У той жа час Бакунін лічыў, што поўнае знясіленне і адурманьванне народа Беларусі – у доўгім падданстве Польшчы. Тагачасныя рэаліі, з якімі сутыкнуўся малады чалавек у беларускіх землях, далі магчымасць спасцігнуць яшчэ адну аксіёму: "Дваране нашы... патанулі ў такім невуцтве, што глядзець на іх балюча".

Пазней у сваіх філасофскіх працах Міхаіл Бакунін неаднойчы звяртаўся да тэмы прыгнечанага беларускага народа. Уражанні, якія засталіся аб 30-х гадах, прывялі яго да цвёрдай перакананасці ў тым, што беларускі народ мае поўнае права на нацыянальнае самавызначэнне: на ўласную тэрыторыю і свабоднае развіццё роднай мовы.

**Падрыхтавала Любоў КАРПОВІЧ.**

■ ЛІТАРАТУРА

# Беларусы ў эміграцыі

**Ньюёрскі даследчык Лявон Юрэвіч у Мінску выдаў кнігу "Літаратурны рух на эміграцыі". Там згадваюцца імёны нашых землякоў-літаратараў, якія былі вымушаныя жыць і працаваць за межамі Беларусі.**

Выдатная работа. Нельга абысці яе ўвагай каму б там ні было, хто звяртаецца да вывучэння гісторыі беларускай літаратуры па эміграцыі ці нават увогуле гісторыі беларускага літаратурнага працэса.

Лявон Юрэвіч згадвае цэлы шэраг імёнаў літаратараў, што звязаны з краем. Як, прыкладам, рэлігійнага дзеяча і пісьменніка Вінцука Адважнага (1890-1978), які нарадзіўся ў Гальшанах Ашмянскага павета. Прыгадаем: адным з першых яго адкрыў у беларускім друку Іван Ласкоў, надрукаваўшы ў "Літаратуры і мастацтве" артыкул "Шлях пакутніка: па старонках адной малавядомай кнігі" (1 лютага 1990 года). Цяпер імя Вінцука Адважнага – можна сустрэць толькі ў энцыклапедыях, часам у друку. А між іншым, лёс яго варты ўшанавання мемарыяльнай дошкай. Выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі, ксёндз і літаратар, ён прайшоў пакутнымі, крыжовымі дарогамі выпрабаванняў.

І цяпер жыве ў Фларыдзе ўраджэнец валожынскага Лоска **Уладзімір Брылеўскі**. У 1970-80-ыя гады газета "Беларус" друкавала яго ўспаміны пра дзеячаў нацыянальнага руху. У мядзельскім Будславе ў 1892 годзе нарадзіўся Эдвард Будзька. Друкавацца пачаў яшчэ ў "Нашай ніве". З Калядзіна Маладзечанскага павета Мікола Ганько (у другой палове 40-х жыў у аўстрыйскім Зальцбургу, разам з Уладзімірам Дудзіцкім, Алесем Салаўём і Аляксандрам Грыцуком выпускаў часопіс "Пагоня. З беларускага жыцця"). Згаданы Будслаў – і радзіма Вінцука Жук-Грышкевіча (1903-1989). З 1956 года жыў у Канадзе, рэдагаваў "Весткі з Канады" для "Беларуса".

З Вілейскага павета – Іван Касяк (1909-1989), беларускі грамадскі дзеяч. Як, між іншым, і святар Святаслаў Коўш (1916-1997), які ў 1944-1948 гадах выкладаў у Беларускай гімназіі ў Германіі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ МІНУЛАЕ

# Драўляныя старонкі памяці

**Напрыканцы 2002 года ў Астравецкім раёне працавала выстаўка, якая далучыла мясцовых жыхароў да памяці і ведання пра Іосіфа Гашкевіча.**

10 кастрычніка 2002 года ў астравецкай вёсачцы Малі быў адкрыты памятны знак у гонар Гашкевіча, які ў 1858-1865 гадах з'яўляўся першым расійскім консулам у Японіі. З 1867 года наш зямляк, выйшаўшы ў адстаўку, жыў у маёнтку Малі.

Аўтар памятнага знака – скульптар, мастак, паэт Рычард Груша, які стала жыве ў Лідзе, а працуе, рэалізоўвае свае праекты, творчыя задумы па ўсёй Гродзеншчыне. Дарэчы, летась на гашкевіцкіх чытаннях мастак і літаратар прапанаваў і праект адраджэння сядзібы Іосіфа Гашкевіча. У Астраўцы і Малях прысутнічаў і госць з Японіі. Ён выказаў папярэднюю згоду прыняць матэрыяльны, фінансавы ўдзел у рэалізацыі праекта.

Рычард Груша ў апошні час надзвычай актыўна займаецца драўлянай скульптурай. Кампазіцыя "Сымон-Музыка" (яна складаецца з дзвюх работ) выкананая творцам па матывах вядомай коласаўскай паэмы. Усталяваны скульптуры ў дзіцячым садзе №15 у Лідзе. 25 скульптур з дубу выразаў мастак для дзіцячага сада вёскі Тракелі Воранаўскага раёна. У сярэдзіне 90-х гадоў майстар аформіў у тэхніцы "разьба па дрэву" вестыбюль цэнтральнай раённай паліклінікі ў Лідзе. Тады ж аформіў і актавую залу ў СШ №4 Ліды.

У 1996 годзе Рычард Груша перадаў у падарунак Дому-музею Адама Міцкевіча ў Навагрудку драўляны партрэт вялікага польскага паэта. Пазалетась – у 2001 годзе – у Лідзе ўжо праходзіла персанальная выстаўка таленавітага майстра. Да ўвагі гледачоў былі прадстаўлены поруч з жывапіснымі палотнамі работы з дрэва. Мастак, чые работы ўжо вядомыя гледачам, аматарам жывапісу і скульптуры не толькі ў Астраўцы, Навагрудку, Гродне, але і ў Мінску, Парыжы. У планах творцы – арганізацыя школы дойлідства.

— Хачу падрыхтаваць своеасаблівы летапіс беларускай літаратуры, — гаворыць Рычард Груша. – Мяркую ў дрэве выразаць вобразы многіх персанажаў, якія вядомы нам па творах паэтаў, празаікаў.

Калі слухаю натхнёны аповед майстра, ужо думаю пра тое, што Рычард Груша змог бы стаць выканаўцам цэлага праекта мастацкіх мемарыяльных дошак з дрэва – у гонар знакамітых пісьменнікаў-землякоў. Прыкладам, для Маладзечна – у гонар Генадзя Каханоўскага. Для Валожына – у гонар Пятра Бітэля. Для Вілейкі – у гонар Аляксандра Уласава. Для Мядзела – у памяць Максіма Танка. Для Смаргоні – ў знак памяці Янкі Шутовіча (мо' з вобраза гэтага дзеяча культуры і пачаць?). Для Астраўца – у гонар Казіміра Сваяка ды яго брата Альбіна Стаповіча. Для Ашмян – у памяць Янкі Станкевіча. Мог бы Рычард Груша і "вымаляваць" сваім разцом партрэты ў дрэве тых альбо іншых дзеячаў культуры для нашых бібліятэк.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

